МІЖНАРОДНАЕ ГРАМАДСКАЕ АБ'ЯДНАННЕ "ЗГУРТАВАННЕ БЕЛАРУСАЎ СВЕТУ "БАЦЬКАЎШЧЫНА"

№12 (152)
снежань 2014

# БЕЛАРУСЫ Ў СВЕЦЕ



ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ



## У НУМАРЫ:

### ЯК БЕЛАРУСЫ СТАВЯЦЦА ДА БЕЛАРУСКАМОЎНЫХ

Кампанія "Будзьма беларусамі!" выращыла даведацца пра стаўленне насельніцтва па краіне да беларускамоўных.

*Чытайце на стар. 2*

### "БЕЛАРУСКІЯ ЎРАЖАННІ" Ў ГОРАДЗЕ БАЛВІ

Вячка Целеш пра выставу сябраў Аб'яднання мастакоў-беларусаў Балтыі "Маю гонар".

*Чытайце на стар. 5*

### ЛОНДАНСКІЯ БЕЛАРУСЫ СВЯТКАВАЛІ 100-ГОДДЗЕ СВАЙГО БІСКУПА

Беларуская грамада ў Лондане святкавала 100-годдзе з дня нараджэння біскупа Чэслава Сіповіча.

*Чытайце на стар. 6*

ВІНШАВАННІ

## ВІНШУЕМ СА СВЯТАМІ!

Дарагія сябры!

Управа і супрацоўнікі Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына" віншуюць вас з Калядамі і Новым годам!

Няхай у наступным годзе вашыя пачуцці будуць цёплымі, як воўна авечкі, а ўпартасць у дасягненні мэтаў будзе не меншая, чым у калядпай козачкі!

Зычым вам сяброўскай шчырасці і вернасці, натхнення ў творчасці і плёну ў працы на карысць нашай роднай Беларусі! Няхай новы год прынясе ўсім нам шмат прыемных адкрыццяў і станоўчых уражанняў!



Будзьма з мовай цэлы год – кліча козка ў карагод!

## ВІНШАВАННЕ СЯБРАЎ ВЯЛІКАЙ РАДЫ

Маем гонар павіншаваць з Днём нараджэння сябраў Вялікай Рады Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына", якія нарадзіліся ў студзені: **Ніну Шыдлоўскую, Ірыну Віданаву, Алега Дашкевіча, Міколу Купаву, Алеся Лагвінца** (Беларусь), **Алесю Кіпель** (ЗША), **Зінаіду Клыга** (Эстонія). Зычым шаноўным імяніннікам бадзёрасці і спору ў працы, душэўнай лёгкасці і цеплыні, любові і радасці!



1 студзеня 70-годдзе адзначае **Вольга Іпатава**, і мы радыя ад шчырага сэрца павіншаваць яе з юбілеем. Зычым Вам, шаноўная Вольга Міхайлаўна, натхнення і сілаў яшчэ на многія гады творчасці, і няхай Вашае жыццё заўжды асвятляюць ласкавыя промні дабрыні і спагады!

Таксама ў першы дзень года 75-гадовы юбілей сустракае **Юлія Якаўлеўна Бураўкіна**. Ад усяго сэрца зычым Вам моцы і трываласці ў жыцці, душэўнае цеплыні і спагады блізкіх, веры ў светлае і абавязкова выдатнага здароўя!

*Управа МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"*

# ЯК БЕЛАРУСЫ СТАВЯЦЦА ДА БЕЛАРУСКАМОЎНЫХ

2014 год адзначыўся павышэннем цікавасці беларусаў да сваёй мовы.

Наколькі шырока ў грамадстве пайшоў гэты працэс?

Кампанія "Будзьма беларусамі!" вырашыла даведацца пра стаўленне насельніцтва па краіне да беларускамоўных. Гэта ўжо не першае даследаванне, што робіць кампанія адносна нацыянальнай ідэнтычнасці, таму ёсць з чым параўноўваць. Больш за тое, некаторымі вынікамі сваіх ўласных даследаванняў падзяліўся і партнёр кампаніі — лабараторыя "Новак".

Як паказала апытанне, беларусы station ўспрымаюць людзей, якія размаўляюць па-беларуску. Цалкам ці часткова ўхваляюць беларускамоўных 76% беларусаў. Хутчэй не вітаюць беларускамоўных і цалкам не вітаюць 12,9% і 3,4% адпаведна. Яшчэ 7,7% не маюць меркавання на гэты конт (гл. графік ніжэй. *Графік пададзены на той мове, на якой праходзіла апытанне, — рускай).




*Графік 1. Як вы ставіцеся да людзей, якія размаўляюць па-беларуску? (2014 г., %)*

Задаваліся рэспандэнтам пытанні і пра стаўленне да павелічэння дзяржаўнага фінансавання і падтрымкі беларускай мовы, і пра пашырэнне присутнасці беларускай мовы на тэлебачанні і радыё. Адказы на іх таксама дэманструюць пазітыўную тэндэнцыю. Колькасць тых, хто вітаў бы абедзве гэтыя магчымасці, большая за колькасць тых, хто гэтага не хоча. Звяртае на сябе ўвагу і той факт, што на пытанне пра прысутнасць беларускай мовы на ТБ працэнт тых, хто не змог вызначыцца з адказам, складае амаль траціну ад апытаных — 34,7%. Такія лічбы, на думку эксперта-сацыёлага Лідзіі Міхеевай, могуць сведчыць пра некатэгарычнасць беларусаў, то бок пра пэўную схільнасць грамадскага меркавання да "сярэдніх", больш лагодных фармулёвак і пазіцый у дачыненні да мовы, а таксама паказваюць на патэнцыял зрухаў у стаўленні да моўных пытанняў тых людзей, якія пакуль не вызначыліся ў сваіх пазіцыях ці не задумваліся пра гэта ўвогуле.

Адказы на пытанне "Што вы думаеце пра людзей, якія заўсёды размаўляюць толькі па-беларуску?" ёсць з чым параўноўваць: кампанія "Будзьма беларусамі!" задавала гэтае пытанне тройчы ў такой жа фармулёўцы — у 2009, 2011 і гэтым годзе. Параўнанне адказаў вымалёўвае наступную тэндэнцыю. Амаль на 8% з 2009 года скарацілася колькасць тых, хто лічыць беларускамоўных людзей "сапраўднымі беларусамі, патрыётамі", аднак пры гэтым менавіта такі адказ застаецца самым папулярным. Наступным па папулярнасці ідзе варыянт "Не звяртаю на гэта ўвагі, ніколі пра гэта не думаў". Колькасць такіх людзей, для якіх праблема мовы ўвогуле не з'яўляецца заўважнай, павысілася ад 24,7% у 2009 годзе да 30,1% у 2014 годзе. Гэта дэманструе, што беларуская мова перастае быць якімсьці маркёрам.

Заўважна, што палярызацыя ў пытанні стаўлення да беларускамоўных праз іх вызначэнне "эліта нацыі" і "апазіцыя" ў апытанні 2014 г. знікла. Яшчэ ў 2011 годзе яна была больш адчувальнай.

Нязначная колькасць рэспандэнтаў у адпаведнасці са старымі савецкімі міфамі адносіць беларускую мову да мовы вёскі. З дадзеных апытання відавочна, што гэты стэрэатып пачынае паступова адыходзіць.

Вынікі апытанняў сведчаць пра пазітыўнае стаўленне беларусаў да сваёй мовы і яе актыўных носьбітаў цягам апошніх пяці гадоў, што дае падставу кампаніі "Будзьма беларусамі!" меркаваць пра наяўнасць дакладнай і ўстойлівай тэндэнцыі.

Матэрыял падрыхтаваны пры дапамозе эксперта Лідзіі Міхеевай на падставе апытанняў, зробленых лабараторыяй "Новак" як на замову кампаніі "Будзьма беларусамі!", так і самастойна.

*budzma.by*

*(Больш графікаў знойдзеце на сайце)*

# "НЕ МАЎЧАЦЬ ПА-БЕЛАРУСКУ" ЗМОГУЦЬ І ЎЛАДАЛЬНІКІ ANDROID

Бясплатнае мабільнае дастасаванне "Не маўчы па-беларуску!" ад кампаніі "Будзьма беларусамі!" дасяжнае ўсім карыстальнікам Android, а неўзабаве – і iOS.




Унікальны каляндар "Не маўчы па-беларуску!" на 2015 год цяпер заўсёды з вамі. Такі прыемны і карысны святочны падарунак падрыхтавала кампанія "Будзьма беларусамі!" для ўсіх карыстальнікаў Android. А неўзабаве мабільны каляндар з'явіцца і для iOS.

Новы год з календаром "Не маўчы па-беларуску!" ад "Будзьма!" – гэта 365 беларускіх словазлучэнняў у вясёлых малюнках мастачкі Дар'і Мандзік, якія будуць заўжды з вамі на вашых любімых прыладах.




Папяровая версія насценнага календара, ідэю і дызайнерскае афармленне якога прапанаваў Анатоль Лазар (студыя "Адліга"), была прэзентаваная напрыканцы лістапада. За кароткі час каляндар ужо некалькі разоў дадрукоўваўся, і цяпер яго ўсё яшчэ магчыма набыць ТУТ.

Спецыяльна для кампаніі "Будзьма беларусамі!" мабільную версію календара зрабіла Студыя Ігара Назаранкі.

Не маўчым разам па-беларуску ў 2015 годзе!

*Паводле budzma.by*

## КНІГА ПАЎЛА СЕВЯРЫНЦА "ЛЮБЛЮ БЕЛАРУСЬ" ВЫЙШЛА ПА-ЧЭШСКУ

У пятніцу 12-га снежня ў "Беларускай клубоўні" ў Празе прайшоў вечар, прысвечаны прэзентацыі кнігі Паўла Севярынца "Люблю Беларусь" у перакладзе Святланы Вранавай на чэшскую мову.

Павал асабіста распавёў пра тое, як узнікла ідэя напісання кнігі, што ўяўляе сабой яе змест, пра выбар назвы. Расказ атрымаўся вельмі шчыры, пазітыўна-яскравы і з гумарам.

Кніга "Люблю Беларусь" была напісаная цягам 2002—2004 гадоў, але сама ідэя ўзнікла нашмат раней — у 1991 годзе. Перад тым, як пачаць пісаць тэкст, Павал сабраў усе вядомыя феномены, якія маглі б сведчыць пра Беларусь: трактар "Беларус", "Песняры", беларуская ахвярнасць, бел-чырвона-белы сцяг і г. д. Пасля гэтага ён доўгі час спрабаваў нейкім чынам сістэматызаваць гэтую мазаіку, скласці яе ў нешта цэласнае, што б увасабляла беларускую нацыянальную ідэю. Урэшце ўсё склалася ў сэрца, якое мы бачым на вокладцы кнігі. Сэрца — гэта любоў, сутнасць беларускасці. Перш за ўсё, любоў Бога да Беларусі і беларусаў.

Падчас стварэння кнігі "Люблю Беларусь" Павал яшчэ не мог сабе ўявіць, што ў будучым яна можа быць перакладзена на нейкую замежную мову. Па-першае, тэкст напісаны досыць спецыфічнай беларускай мовай, па-другое, у ім вельмі шмат тых асацыяцыяў, якія вядомыя і зразумелыя толькі беларусам. Аднак пераклады ўсё ж пачалі з'яўляцца: на рускую мову ўзяўся перакладаць уласны бацька, гэты пераклад быў прэзентаваны два гады таму, але так і застаўся ў электронным выглядзе. Потым частка эсэ (верагодна, тыя, якія лепш за ўсё былі зразумелыя не-беларусу) выйшла на польскай мове. "Але тое, што гэта кніга выйшла па-чэшску, гэта сапраўды цуд Божы", - прызнаецца Павал.

Як адзначыў Павал, кніга "Miluji Bělorusko" магла бы стаць своеасаблівым падручнікам для беларусаў, якія прыязджаюць у Чэхію і хочуць вывучыць чэшскую мову. Паслужыць таксама і як пэўная энцыклапедыя для чэхаў, якія імкнуцца даведацца пра Беларусь. Кніга мае 7 раздзелаў: пра беларускую гісторыю, культуру, спорт, гаспадарку і г. д., у іх апісаныя 200 феноменаў, датычных да беларускай нацыянальнай ідэі.

Павал асобна прэзентаваў яшчэ адну сваю кнігу - "Беларуская глыбіня" - зборнік эсэ, напісаных падчас ягонай адсідкі ў "амерыканцы" і ў "Купліну" пасля плошчы.

*Паводле pahonia.cz*

## НЕВЯДОМЫЯ РАНЕЙ ТЭКСТЫ ДРАЗДОВІЧА СТАЛІ ДАСТУПНЫЯ ГРАМАДСКАСЦІ

Язэп Драздовіч вядомы перадусім як мастак. Значна менш засвоена ягоная літаратурная спадчына. Многія яго тэксты дасюль не публікаваліся і вядомыя хіба спецыялістам. Тое тычыцца, напрыклад, некаторых рукапісаў Драздовіча, якія захоўваюцца ў Вільні, у бібліятэцы Акадэміі навук Літвы (у зборах Віленскага Беларускага Музея імя Івана Луцкевіча). Сярод іх вылучаюцца сшыткі і нават адмыслова аформленыя Драздовічам самаробныя кніжкі з апісаннямі яго "начных візіяў" — "самнамбулістычных" (як ён сам іх акрэсліваў) падарожжаў у космас. Гэта абсалютна надзвычайныя, ні да чаго не падобныя тэксты — дэталёвая дакументацыя ўсяго ўбачанага на Марсе, Сатурне, Месяцы, з асобнымі замалёўкамі, калажамі, а таксама мапамі, на якіх пазначаны іншапланетныя краіны, гарады. Беспрэцэдэнтнасці гэтым матэрыялам дадае тое, што Драздовіч лічыў свае "візіі" цалкам рэальнымі, мяркуючы, што валодае дарам яснабачання. Ён скрупулёзна фіксаваў у сваіх нататках геаграфічныя адметнасці планет, якія наведваў, асаблівасці іх флоры, фаўны. Багата ўвагі надаваў і тамтэйшым насельнікам — больш ці менш чалавекападобным істотам, іх вонкаваму выгляду, адзенню, іх заняткам і побыту, узведзеным імі асобным будынкам і цэлым гарадам (у гэтых рукапісах працьма падрабязных апісанняў архітэктуры, інтэр'ераў іншапланетнага жытла) і інш.

Сёння з'явілася магчымасць пазнаёміць з гэтымі ўнікальнымі матэрыяламі беларускага чытача ў межах праекта "Марсіянскія хронікі Язэпа Драздовіча". Фундатар праекта — Павел Берагові, вядомы бізнесмен і мецэнат, які актыўна падтрымлівае разнастайныя культурныя ініцыятывы ў Беларусі. У перспектыве плануецца правядзенне выставы жывапісных і графічных працаў Драздовіча, у якіх адлюстраванае шмат што з таго, пра што ён паведамляе ў рукапісных "справаздачах" са сваіх касмічных вандровак.

Першыя падрыхтаваныя ў межах праекта матэрыялы — урыўкі з рукапісаў "Жыццё на Марсе", "Жыццё на планеце Сатурне" і "У чорным лабірынце (у цяснінах цырка Платона)" — размешчаныя на сайце drazdovich.by. Гэта адмысловы інтэрнэт-рэсурс, прысвечаны жыццю і творчасці Язэпа Драздовіча. Неўзабаве на сайце з'явяцца і новыя ўрыўкі з рукапісаў Драздовіча. Рыхтуюцца таксама публікацыі і ў іншых выданнях.

*Паводле Ліі Кісялёвай і Вольгі Архіпавай, tbm-mova.by*

## ЗЯНОН ПАЗЬНЯК: КОЖНЫ БЕЛАРУС МОЖА БЫЦЬ ПАЭТАМ

19 снежня ў Варшаве адбылася паэтычная вечарына Зянона Пазьняка, падчас якой была прэзентавана кніга "Ojczyzna wieczna" – пераклад вершаў на польскую мову. У кнігу ўвайшлі вершы са зборніка "Дарога", перакладала польская паэтка Ірэна Грынцэвіч.

Зянон Пазьняк зазначыў, што кожны беларус можа пісаць вершы: "Важна паверыць у сябе. Вось калі ты паверыш, што нейкія пачуцці, якія цябе захапілі, ты зможаш выкласці ў вершы, то ты гэта і зробіш. І беларусы маюць вялікія здольнасці да гэтага. Ім дапамагае наша мова. Наша мова – гэта мова паэзіі. Гэта дзівосная мова! Яна мае розныя націскі, розныя формы слова, вельмі шмат сінонімаў – гэта для паэзіі дзівосная мова".

Падчас сустрэчы лідар Беларускага Народнага Фронту таксама адказаў на пытанні, звязаныя з сучаснай палітычнай сітуацыяй.

*Адам Завальня, "Беларускае Радыё Рацыя"*

АБВЕСТКА

## ТБМ ЗАПРАШАЕ НА КАНФЕРЭНЦЫЮ "МОЎНЫЯ ПРАВЫ І ІХ АБАРОНА"

ГА "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" запрашае да ўдзелу ў Міжнароднай канферэнцыі "Моўныя правы і іх абарона".

Канферэнцыя адбудзецца 28 сакавіка 2015 г. у г. Мінску.

Пытанні для абмеркавання:

1. Праблемы моўнага заканадаўства.
2. Тэхналогіі і практыкі грамадзянскай супольнасці па абароне лінгвістычных правоў.
3. Моўная палітыка і актуальныя пытанні развіцця нацыянальных моў.

Падчас канферэнцыі плануецца выстава ідэяў і праектаў: Тэхналогіі моўнага адраджэння.

Патрабаванні да артыкулаў: аб'ём да 7 старонак, шрыфт Time New Roman, памер шрыфта – 14, інтэрвал – адзінарны.

Заяўкі з матэрыяламі дасылайце на адрас tbmkanfierencyja@gmail.com , тэма – выступ, або па пошце 220034, вул. Румянцава, 13, г. Мінск.

Заяўкі на ўдзел разам з артыкуламі прымаюцца да 10 сакавіка 2015 г.

Аргкамітэт пакідае за сабой права адбору матэрыялаў для ўдзелу ў канферэнцыі і апублікавання.

Тэлефон для даведак: 284-85-11 (штопанядзелак з 18 да 20) .

Некаторыя матэрыялы будуць дадаткова размешчаны на партале tbm-mova.by.

*Паводле tbm-mova.by*

# ЧАС ЧЫНІЦЬ ДОБРАЕ




Набліжаюцца доўгачаканыя зімовыя святы. Кожны з нас менавіта ў гэты час робіцца зноў крышачку дзіцём і, нягледзячы ні на што, у душы абавязкова верыць у калядныя цуды.

7 снежня ў міжнародным выставачным цэнтры "Moldexpo" Пасольства Рэспублікі Беларусь у Рэспубліцы Малдова разам з Беларускім культурным рухам Малдовы і афіцыйнымі прадстаўнікамі некаторых вытворцаў беларускай касметыкі, адзення і пасцельнай бялізны ўзялі ўдзел у зімовым дабрачынным кірмашы-2014, каб шчыра, па-беларуску, падараваць часцінку любові, цяпла і каляднага цуду тым, каму яно сапраўды больш за ўсё патрэбна. Арганізатарам мерапрыемства традыцыйна выступіў Міжнародны жаночы клуб Малдовы.

На кірмашы былі прадстаўленыя ўсе акрэдытаваныя ў Малдове дыпламатычныя місіі, а таксама шэраг няўрадавых арганізацый і мясцовых вытворцаў. "Вандраванне-аднадзёнка па свеце, дзе кожная дзяржава прадстаўляе нешта сваё нацыянальнае і ўсё па вельмі даступных цэнах", – так прарэкламавалі арганізатары сваё мерапрыемства. У наведнікаў выставы была магчымасць пакаштаваць нацыянальныя стравы і напоі розных этнасаў, набыць сувеніры і вырабы народных умельцаў з многіх краінаў свету.

І сапраўды, ва ўпрыгожанай зале ў вачах мітусілася ад прылаўкаў з раскладзенымі на іх разнастайнымі сувенірамі, ежай, кнігамі, цацкамі, вырабамі. Ішоў жвавы гандаль імі, асабліва папулярнымі выявіліся стравы кухняў розных народаў свету.

У павільёне Рэспублікі Беларусь наведнікі дабрачыннага кірмашу змаглі пакаштаваць і набыць розныя беларускія прысмакі, напоі, мастацкія творы, кнігі, касметыку і вопратку беларускіх вытворцаў. Набываючы беларускую прадукцыю, усе без выключэння падкрэслівалі традыцыйна вельмі высокую якасць беларускіх тавараў, казалі нам пра свой давер да беларускіх вытворцаў.

Удзельнічаючы ў гэтым вельмі душэўным дабрачынным мерапрыемстве, мы як прадстаўнікі беларускага этнасу зноў пераканаліся ў самым добрым стаўленні да беларусаў з боку іншых народаў. Сярод наведнікаў павільёна Рэспублікі Беларусь было шмат высокапастаўленых гасцей, дзяржаўных дзеячаў, кіраўнікоў дыпламатычных місій розных краінаў свету. Падчас кірмашу да беларускага павільёна падышла велізарная колькасць самых розных людзей з неабыякавай душой. Хтосьці з наведнікаў з асаблівай цеплынёй успамінаў пра свае паездкі ў Беларусь, хтосьці распавядаў пра сваякоў і знаёмых, якія жывуць на беларускай зямлі, некаторыя нават распытвалі Аляксандра Аляксандравіча Салаўёва, Часова Паверанага Рэспублікі Беларусь у Рэспубліцы Малдова, аб тым, як можна пераехаць у Беларусь на ПМЖ, і ўсе госці беларускага павільёна шчыра зычылі Рэспубліцы Беларусь усяго самага найлепшага.

Сёлета сабраныя ахвяраванні атрымаюць аддзяленні гематалогіі і дзіцячай анкалогіі Рэспубліканскага інстытута анкалогіі Рэспублікі Малдова, а таксама дзеці Цэнтра ротасківічна-тварнай хірургіі, якія маюць патрэбу ў адмысловым доглядзе.

Гэты зімовы перыяд становіцца па-сапраўднаму святочным і поўным цудаў толькі тады, калі не толькі верыш і чакаеш, а сам пачынаеш дарыць душэўную цеплыню, клопат, увагу і чыніць добрае ад шчырага сэрца.

*Ганна Мазур*

## АБВЕСТКІ

### ПАЭТЫЧНЫ НАРОДНЫ СЛЭМ ПРЫМАЕ ЗАЯЎКІ НА ЎДЗЕЛ

Народны — значыць для ўсіх, і для прызнаных паэтаў, і для тых, хто ніколі не прэзентаваў свае вершы, але хоча гэта зрабіць.

13–15 лютага 2015 г. у Мінску пройдзе штогадовы міжнародны фестываль імя Міхася Стральцова "Вершы на асфальце", у межах якога адбудзецца слэм — паэтычнае спаборніцтва, дзе аўтары чытаюць свае вершы і атрымліваюць адзнакі ад глядацкай залі за змест і артыстызм.

Заяўкі на ўдзел прымаюцца ад 16 снежня 2014 да 2 лютага 2015 г. Фінальны спіс удзельнікаў будзе сфарміраваны на конкурснай аснове.

**Як падаць заяўку:**

Загрузіце на youtube відэа, дзе вы чытаеце адзін уласны верш, і дашліце спасылку на ролік праз форму падачы заяўкі http://lit-bel.org/by/news/5504.html. Якасць відэа не мае прынцыповага значэння, яно можа быць знятае і на смартфон.

Па ўсіх пытаннях звяртайцеся па тэл. (017) 200-80-91 і электроннай пошце sbp@lit-bel.org

*Аргкамітэт фестывалю*

### ВОСЬМЫ НУМАР ЧАСОПІСА "КУЛЬТУРА, НАЦЫЯ"

Дарагія сябры!

Рады паведаміць пра выхад восьмага нумара часопіса "КУЛЬТУРА, НАЦЫЯ", www.sakavik.net (снежань 2014).

Спадзяёмся на вашыя каментары, а таксама чакаем вашых артыкулаў!

У нумары - артыкулы Пётры Мурзёнка, Вадзіма Шышко, Аляксандра Згерскага, Ірыны Хадарэнкі.

*Рэдакцыя часопіса*

# "БЕЛАРУСКІЯ ЎРАЖАННІ" Ў ГОРАДЗЕ БАЛВІ

Латвійскі горад Балві знаходзіцца на паўночным усходзе Латвіі, далей ад беларускай мяжы, ён бліжэй да мяжы з Пскоўшчынай, амаль за 200 км ад Рыгі. Беларусаў тут амаль няма, адзінкі, у гэтым латгальскім горадзе больш чуваць латгальскую, латышскую ды рускую мовы. Нягледзячы на гэта, мясцовы музей быў зацікаўлены сустрэць тут беларускіх мастакоў і адкрыць 8 лістапада 2014 г. выставу "Беларускія ўражанні", паказаць жыхарам горада Балві 40 твораў сябраў Аб'яднання мастакоў-беларусаў Балтыі "Маю гонар".

Музей месціцца ў адным з будынкаў старога маёнтка на вуліцы Брывібас, на беразе возера. Адносна некаторых іншых музеяў Латгаліі, дзе ладзіліся выставы "Маю гонар", будынак музея ў горадзе Балві адрэстаўраваны і аформлены па сучасным еўрапейскім праекце. Менавіта дзякуючы гэтаму, а таксама мастацкаму густу куратаркі выставы фотамастачкі Дацэ Тэйлане, экспазіцыя з невялікімі памерамі прац мастакоў аб'яднання "Маю гонар" вельмі добра і гарманічна ўпісалася ў інтэр'ер выставачнай залы.

Адкрыццё выставы "Беларускія ўражанні" пачалося з выступлення супрацоўніцы музея мастачкі Астры Лочмеле-Амбаравай, якая праспявала латгальскія песні пад акампанемент сваёй гітары. Пасля музычнага ўступлення дырэктарка музея Івэта Супэ і мастакі запалілі свечкі на вялікіх падсвечніках, якія афармлялі інтэр'ер залы.

Потым адбыліся выступы дырэктара музея спадарыні Івэты Супэ, куратаркі выставы і мастакоў, беларускія творцы таксама праспявалі на роднай мове песню "Цячэ вада ў ярок" пад акампанемент гітары мастачкі Алены Раманенкі. Гаспадары віншавалі мастакоў не толькі кветкамі, яны атрымалі прыгожа надрукаваны каталог выставы, а таксама па слоічку цудоўнага латгальскага яблычнага варэння.

Пасля святочнага стала супрацоўнікі музея паказалі экспазіцыю, прысвечаную гісторыі горада Балві і краю, этнаграфіі латгальцаў, дзе можна было бачыць шмат агульнага як для латгальцаў, так і для беларусаў, асабліва ў арнаменце, строях і драўлянай архітэктуры, гэта падкрэслівалі і самі супрацоўнікі музея. Далей у праграме сустрэчы было знаёмства з горадам, дырэктарка музея зрабіла для беларускіх мастакоў цікавую экскурсію. Пабылі ў старым гарадскім "Мядзведзевым парку", дзе сабрана з наваколля краю калекцыя 49 камянёў-валуноў, што вышэйшыя за чалавека, пагулялі па старым горадзе, агледзелі яго помнікі архітэктуры, лютаранскую бажніцу і рымска-каталіцкі Свята-Троіцкі касцёл. На просьбу Івэты Супэ мясцовы каталіцкі святар Мартыньш Клуш спецыяльна прыйшоў і адчыніў касцёл, каб паказаць яго ўпрыгожанні. Наведалі мы таксама і Цэнтр сакральнага мастацтва, дзе экспанавалася выстава жывапісу і графікі латгальскага мастака Пэтэрыса Джыгурса, сакурсніка і сябра аўтара гэтых радкоў.



*Мастакі запальваюць свечкі*

Знаёмства з чарговым горадам Латгаліі дало беларускім мастакам дадатковую цікавую інфармацыю аб людзях, іх культуры, аб зямлі дзяржавы, у якой жывуць цяпер беларускія творцы. А іх выстава, адкрытая тут у шэры лістападаўскі дзень, сваімі творамі, сваёй рознакаляровасцю фарбаў прынесла наведнікам светлыя і цёплыя ўражанні вясны і лета, і добрасуседскія адносіны паміж прадстаўнікамі двух народаў, якіх злучае адна рака Даўгава – Дзвіна.

Выстава ў Балваўскім музеі будзе працаваць да студзеня 2015 г., на ёй прадстаўлены працы жывапісу і графікі Галіны Жэлабоўскай, Алены Раманенкі, Васіля Малышчыца, Алены Лаўрыновіч, Алены Ціхаміравай, Тамары Насенкі, Вячкі Целеша, Аліны Літвіненкі, Алега Аблажэя, Ганны Пейпіні, Ірыны Трумпель-Сабалеўскай, Вячаслава Лаўрыновіча, Надзеі Ізінёвай і Яна Кузміцкага.

*Вячка Целеш,*
*svitanak.lv*

# НА ФЕСТЫВАЛІ НАЦЫЯНАЛЬНАЙ КУХНІ БЕЛАРУСЫ ТОМСКАЙ ВОБЛАСЦІ БЫЛІ НАЙЛЕПШЫМІ

Нацыянальныя культуры маюць свае этнічныя асаблівасці, але ёсць агульначалавечыя каштоўнасці, якія аб'ядноўваюць усіх людзей: любоў да Айчыны-маці, сяброўства, гасціннасць. Мабыць, няма такога народа, у якога свята не выконваліся б традыцыі гасціннасці. Госця заўсёды сустракалі шчодрым пачастункам ды душэўнай гутаркай, песняй. Невыпадкова на Томскай зямлі праводзяцца творчыя сустрэчы і нацыянальныя святы. А якое свята без нацыянальнай кухні?

Так, 28 лістапада для студэнцкай аўдыторыі ў зале ТДУ праводзілася Свята нацыянальнай кухні, у якім Аўтаномія беларусаў Томскай вобласці ўзяла самы актыўны ўдзел. Гасцям былі прапанаваныя традыцыйныя стравы беларускай кухні: мачанка, дранікі са смятанай, бульба з салам, упрыгожаная зялёнай цыбулькай. Фальклорны ансамбль "Медуніца" вітаў удзельнікаў свята і гасцей народнымі песнямі "Дранікі", "Бульба". Немагчыма было выстаяць перад такім пачастункам і творчым падарункам. Да стала беларусаў ішлі не толькі студэнты, але выкладчыкі ТДУ. У Томскім універсітэце вучацца студэнты з розных краін (Кітая, В'етнама і інш.). Ім было не толькі цікава пазнаёміцца з беларускай кухняй, але і даведацца рэцэптуру беларускіх нацыянальных страў. Рэцэптаў хапіла ўсім ахвочым. А на свяце прадставілі свае нацыянальныя кухні дагенстацы, італьянцы, рускія, кіргізы. Было весела, смачна і вельмі сытна. Нам таксама пашчасціла пакаштаваць італьянскую піцу, рускія бліны і дагестанскія аладкі. Але што можа быць смачнейшым ад беларускай бульбы і дранікаў!

Удзел у фестывалі Рэгіянальнай грамадскай арганізацыі "Нацыянальна-культурная аўтаномія беларусаў у Томскай вобласці" (кіраўнік Адаскевіч Любоў Аляксандраўна) адзначаны Дыпломам.

У які раз мы пераканаліся, што, нягледзячы на разнастайнасць традыцый, спосабаў прыгатавання кулінарных шэдэўраў, нас аб'ядноўвае жаданне сяброўскага ўзаемадзеяння і непагаснае жаданне даведвацца аб іншых, паказваць сябе. Нашае адзінства ў разнастайнасці. Мы розныя, але мы разам!

*Любоў Адаскевіч*

# ЛОНДАНСКІЯ БЕЛАРУСЫ СВЯТКАВАЛІ 100-ГОДДЗЕ СВАЙГО БІСКУПА

У нядзелю 7 снежня беларуская грамада ў Лондане святкавала 100-годдзе з дня нараджэння біскупа Чэслава Сіповіча. Да гэтай даты было прымеркаванае ўрачыстае багаслужэнне і прэзентацыя кнігі выбраных твораў а. Аляксандра Надсана, які ў 2012 г. напісаў біяграфію біскупа.

Біскуп Сіповіч стаяў у вытокаў беларускага жыцця ў Вялікабрытаніі, якім яно было на працягу ўсіх пасляваенных гадоў і якім застаецца дагэтуль. Ён быў выдатным арганізатарам і лідарам — сузаснаваў Згуртаванне беларусаў у Вялікай Брытаніі (ЗБВБ), Англа-беларускае таварыства, Скарынаўскую бібліятэку ў Лондане, Беларускую каталіцкую місію і "беларускую вёску" (як часта называюць некалькі дамоў у раёне Фінчлі ў паўночным Лондане) вакол яе. Усе гэтыя арганізацыі і ўстановы існуюць дагэтуль і гуртуюць нашых суайчыннікаў на Імглістым Альбіёне.

Біскуп Сіповіч, як ніхто іншы, папулярызаваў веды пра Беларусь у брытанскім грамадстве. У Скарынаўскай бібліятэцы ў Лондане захоўваюцца здымкі сустрэчаў біскупа з многімі выбітнымі фігурамі, у т.л. Маргарэт Тэтчэр.

Біскуп Сіповіч быў адзіным беларускім удзельнікам Другога Ватыканскага сабору (1964—1968) – паваротнага кангрэсу, які вызначыў сучасны характар Каталіцкай Царквы.

Кранальным і нечаканым момантам святкавання стала праслухоўванне запісу адной з апошніх казаняў біскупа. Гэты запіс захаваўся ў беларускай Скарынаўскай бібліятэцы на магнітафоннай касеце, якой ужо 33 гады.

Пасля богаслужэння прысутным была прадстаўлена кніга а. Аляксандра Надсана, якая выйшла зусім нядаўна ў Мінску ў зялёнай серыі "Беларускага кнігазбору". Сам аўтар не змог прэзентаваць сваю кнігу праз хваробу, таму пра яе гаварыў а. Сяргей Стасевіч, які разам з укладальніцай Ірынай Багдановіч з Акадэміі навук прэзентаваў том выбраных тэкстаў у Беларусі. Ён казаў пра тое, што а. Надсан – выдатны перакладчык біблійных і літургічных тэкстаў, скарыназнаўца і царкоўны гісторык. Ён таксама заўважыў, што англамоўная спадчына а. Надсана яшчэ чакае больш поўнай публікацыі і інтарэс да яе будзе значны, бо, сярод іншага, а. Аляксандр зрабіў грунтоўны ўнёсак у ісламазнаўства, бо адкрыў англамоўнаму свету спадчыну беларускіх татараў.

Брытанскія беларусы запланавалі яшчэ некалькі падзей на найбліжэйшыя тыдні — Дзень вышыванкі (14 снежня), паказ фільма "Жыве Беларусь" у цэнтральным Лондане (15 снежня) і калядную батлейку для дзяцей і дарослых (20 снежня). Падрабязней пра іх можна даведацца на сайце брытанскіх беларусаў belarusians.co.uk.

*Прысутны, "Наша Ніва"*

## ЛОНДАНСКІЯ БЕЛАРУСЫ ПЕРАНЯЛІ ЭСТАФЕТУ ДЗЁН ВЫШЫВАНКІ

Пасля паспяховых Дзён вышыванкі ў Мінску падзея прыйшла ў Лондан у самы прыдатны для гэтага час – напярэдадні Калядаў, калі многія ў задуменні, што набыць у падарункі сябрам і сваякам.

На запрашэнне Згуртавання беларусаў у Вялікай Брытаніі Франак Вячорка з мінскай "Арт Сядзібы" і "Радыё Свабода" прывёз вышымайкі з беларускім арнаментам, байкі з дасціпнымі надпісамі, магніты на лядоўні, значкі й завушніцы з старажытнымі рунамі, паштоўкі і нават артызанскае мыла з Пагоняй. А таксама настольныя гульні, кніжкі ад "Радыё Свабода", музычныя плыткі. Інтарэс быў вялікі і большасць цікавостак прадалася хутка. Частку прывезенага пакінулі для глядачоў фільма "Жыве Беларусь!", які паказвалі ў цэнтральным Лондане ў панядзелак 15 снежня.

Франак Вячорка з запалам распавёў прысутным пра тое, як сёлета "Арт Сядзіба" і іншыя праекты, што працуюць для папулярызацыі нацыянальнай культуры, нечакана нават для сябе апынуліся ў шквальным трэндзе інтарэсу да традыцыйных матываў беларускай вышыўкі, як слова вышымайка было прыдуманае, як працуюць курсы "Мова нанова" і якія новыя праекты варта чакаць ад нястомных руплівцаў.

*Паводле belarusians.co.uk*

## ФЕСТЫВАЛЬ БЕЛАРУСКАЙ ПЕСНІ Ў КАЛІНІНГРАДЗЕ

Фестывалем беларускай песні завяршылі год сябры Беларускага культурнага таварыства ў Калінінградзе. Імпрэза адбылася ў абласным цэнтры. 22 лістапада музыкі нашага горада (ансамбль цымбалістаў пад кіраўніцтвам Любы Кастраміной, ансамбль "Чырвоны касцёл", аўтар і выканаўца Святаслаў Хоміч), а таксама актывісты таварыства прымалі гасцей у "Цэнтры сучаснага мастацтва" Калінінграда. Імпрэза была прысвечаная слаўнай падзеі нашай гісторыі – пяцісотгоддзю Аршанскай бітвы.

"Цвіком" праграмы стаўся выступ нашых гасцей – гурта "Крама", які ўпершыню даваў канцэрт перад калінінградскай публікай. Разам са старымі хітамі адбылася прэм'ера новага альбома "Белая вада". Майстэрства Ігара Варашкевіча і яго каманды здолела разагрэць публіку да патрэбнай тэмпературы. Такія хіты як "Хавайся ў бульбу", "Бяжы, хлопец", "Выпі са мной да дна" гурт спяваў разам з залай.

Перадаем падзяку кампаніі "Белавія", якая зрабіла нам мінімальны тарыф на пералёт гурта. Дзіўную пазіцыю займае аддзяленне пасольства РБ у Калінінградзе ў асобе кіраўніка спадара Гарбаценкі, якое ігнаруе беларускія імпрэзы, але бывае на ўкраінскіх. Тым не менш, Беларусь жыве і будзе жыць. З Калядамі і Новым Годам!

*Ігар Шаховіч*

## БЕЛАРУСКАЯ ЯЛІНКА НА МІЖЭТНІЧНАЙ ВЫСТАВЕ Ў ЗША

У амерыканскім горадзе Нью-Брансвік у штаце Нью-Джэрсі, у венгерскім культурным цэнтры штогод перад Калядамі адбываецца ўрачыстасць, у праграму якое ўваходзіць паказ ялінак розных этнічных групаў. Пяюцца таксама калядкі.

Ужо 25 гадоў як беларуская праваслаўная царква Жыровіцкай Маці Божай, што знаходзіцца ў горадзе Гайленд-Парк побач з Нью-Брансвікам, бярэ ўдзел у гэтай каляднай урачыстасці.

Удзел у паказе ялінак быў запачаткаваны нябожчыцай Галінай Русак ды працягваецца стараннямі Сяргея Трыгубовіча.

Сярод дзясятка ялінак на сёлетнім паказе стаіць і беларуская, упрыгожаная аздобамі, таленавіта зробленымі ў Беларусі выключна з саломкі. Каля ялінкі стаіць табліца з апісаннем нашай каляднай куцці.

Сярод ялінак — італьянскае, грэчаскае, японскае ды іншых — беларуская глядзіцца вельмі прывабна.

Яна будзе сведчыць пра Беларусь на працягу наступных трох тыдняў.

*ЯЗ, "Наша Ніва"*

## АБВЕСТКА

Выказваем шчырую падзяку спадару **Алесю Карповічу** з Рыгі за падтрымку дзейнасці Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына"!

*Управа МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"*

# АДНОСНА ПАДЗЕЯЎ У БЕЛАРУСКАЙ ГРАМАДЗЕ Ў ВІЛЬНІ

Нядаўна рэдакцыя газеты "Беларус" атрымала некалькі лістоў з Вільні пра тое, што там групаю віленскіх беларусаў выстаўлены абвінавачанні ў адрас старшыні ТБК Хведара Нюнькі ў маніпуляцыях з беларускай маёмасцю. Ліст аднаго з прыналежных да групы сп. Савянкова напісаны дакладна так:

*"Паважаная рэдакция газеты БЕЛАРУС, дасылаю Вам некаторыя матэрыялы аб скандале у ТБК (Вильня) дзе мясцовыя беларусы звярнулися у пракуратуру и у Суд, супраць крыминальных учынкау сваего былога кирауника Федара Нюнько, яки у 1998 г. якабы перабау беларуския дамки у Вильне нейкай фирме, а сам сядзибу ТБК перавеу у маленькую кватэру. Недауна беларускиа дамки были прададзеныа с аукциена и беларуская грамада Вильни асталася без маемасци, падманутая сваим жа лидэрам, якога немагли перабраць с пасды кирауника ТБК 25 гадоу. (прыклкдаю дакументы)".*

Гэты кароткі тэкст выразна сведчыць пра маральнае аблічча "актывістаў" групы. Яшчэ ў лютым бягучага года мы мелі інфармацыю ў газету ад ТБК пра справаздачна-выбарчы сход і пра тое, што сп. Нюнька быў аднагалосна абраны старшынём ТБК. А цяпер яго раптам абвінавачваюць у крымінальных учынках. І гэта яшчэ да суда, які адзіны можа так кваліфікаваць дзеянні сп. Нюнькі на падставе закона. Аказваецца таксама, што сябры ТБК не маглі пераабраць сп. Нюньку з пасады кіраўніка цягам 25 гадоў. І гэта ў дэмакратычнай еўрапейскай Літве. На нашу думку, не пераабіралі таму, што сп. Нюнька працаваў, вёў гаспадарку, клапаціўся пра памяшканне і аплаты, а тыя, хто сёння яго судзяць, хацелі толькі прысутнічаць на пасяджэннях, выступаць, карыстацца памяшканнямі і не думаць пра тое, як гэтая дзейнасць ТБК забяспечваецца.

Што варта адзначыць, падставаю да абвінавачванняў сп. Нюнькі, як паведамляецца ў дасланых лістах, сталася тое, што раптам атрымалі дакумент пра абмен. Дзе ўзялі і хто раптам "падсунуў" гэтую інфармацыю - не паведамляецца. Чаму менавіта цяпер? А дзе былі шаноўныя сябры ТБК, калі ТБК пакідала дамкі? Тады яны не цікавіліся гэтым дакументам, хаця ведалі пра абмен. Усе клопаты скінулі на сп. Нюньку, а свае абавязкі як сяброў не выконвалі належным чынам.

Нехта вельмі ўдала арганізаваў гэтую групу "пратэстоўцаў", якая мае выканаць загад - цкаваць сп. Нюньку, бо падкупіць і прыўлашчыць яны яго не могуць. А знішчыць пажылога чалавека судоваю цяганінаю змогуць. І зробяць гэта рукамі саміх беларусаў.

Віленскім "змагарам" варта было б вырашаць свае спрэчныя пытанні з дапамогаю Статута ТБК, куды можна ўнесці пункт пра абмежаванне тэрмінаў старшынёўства, быць больш крытычнымі да ацэнкі ўласных паводзінаў, мець павагу да сп. Нюнькі як кіраўніка арганізацыі і не спяшацца абвяшчаць яго крымінальнікам. Не лішне было б агледзецца на тых, хто распачаў гэтую гісторыю і каму гэта цяпер выгадна.

Вярнуць беларусам дамкі ў Вільні - годная мэта. Але факт, як хутка сабраная патрэбная сума (акрамя адвакатаў) выклікае пытанне, хто даў грошы, бо вядома, што сярод віленскіх беларусаў не так ужо шмат заможных. Ці не можа ўся справа са зборам грошай аказацца камуфляжам, а грошы пад нейкім выглядам дасць беларуская амбасада? І беларускае жыццё ў Вільні тады закіпіць пад гучныя фанфары патрыятычнай і гістарычна справядлівай акцыі. Толькі не будзе ўжо там так нялюбага ўладамі ў Мінску сп. Нюнькі і ўсё будзе дзеіцца пад схаваным "парасонам" беларускай амбасады. Ці не варта віленскім беларусам у сваім зацятым змаганні са сп. Нюнькам задумацца пра магчымыя вельмі непажаданыя наступствы для нашых нацыянальных інтарэсаў, асабліва ў нашай духоўнай сталіцы - Вільні.

У нашу рэдакцыю было таксама даслана меркаванне сп. Алега Аблажэя ў падтрымку сп. Нюнькі, з якім мы цалкам салідарызуемся. Ягоны глыбокі, сумленны і маральна выверааны аналіз сітуацыі выклікаў нашую павагу і спадзяемся, што да яго прыслухаюцца і пратэстоўцы. Мы далёкія ад таго, каб ідэалізаваць сп. Нюньку ці каго іншага; магчыма, ён заслугоўвае крытыкі, але не тых брудных абразаў і брутальных нападаў, якія арганізаваны людзьмі, што самі далёкія ад ідэалу і якія цалкам здымаюць з сябе адказнасць за арганізацыю. Урэшце, не варта людзям кіравацца законамі "воўчай зграі", калі больш маладзейшыя загрызаюць састарэлага былога важака.

*Ганна Сурмач,*
*рэдактар газеты "Беларус"*
*Нью-Ёрк.*
*Снежань, 2014*

*Дадзена ў скароце.*
*Поўны тэкст чытайце на zbsb.org*

# БЕЛАРУСКІ КАЛЯНДАР ПАМЯТНЫХ ДАТ НА СТУДЗЕНЬ 2015 ГОДА

1 студзеня – 95 гадоў таму ў в. Турэц (цяпер Карэліцкі р-н) нарадзіўся Барыс Рагуля (1920–2005), дзеяч нацыянальнага руху ў 1940-х гг., намеснік прэзідэнта Беларускай Цэнтральнай Рады на Наваградскую акругу (1944 г.), дзеяч эміграцыі ў Бельгіі і Канадзе, віцэ-прэзідэнт Рады БНР.

4 студзеня – 40 гадоў таму памёр Юрка Віцьбіч (сапр. Серафім Шчарбакоў, на эміграцыі — Юры Стукаліч; 1905–1975), пісьменнік, грамадска-культурны дзеяч, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і ЗША. Пахаваны на беларускіх могілках у Саўт-Рыверы (Нью-Джэрсі, ЗША).

6 студзеня – 70 гадоў таму ў Швейцарыі памерла Магдалена Радзівіл (1861–1945), дзеяч культурнага руху, мецэнатка.

7 студзеня – Каляды (Раство Хрыстова) па праваслаўным (юльянскім) календары.

7 студзеня – 65 гадоў таму, у 1950-м, у Сіднеі (Аўстралія) пачаў працаваць першы Беларускі Клуб.

7 студзеня – 20 гадоў таму ў Нью-Ёрку (ЗША) памёр Мікола Панькоў (1911–1995), журналіст, бібліяфіл, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і ЗША.

8 студзеня – 35 гадоў таму памёр Кастусь Кіслы (1898–1980), кампазітар, музыкант, дырыжор, дзеяч эміграцыі ў Бельгіі і ЗША. Пахаваны на праваслаўных могілках у Беластоку-Выгодзе.

13 студзеня – 130 гадоў таму памёр Іван Хруцкі (1810–1885), мастак.

15 студзеня – 130 гадоў таму памёр Антон Адынец (1804–1885), паэт, філамат, перакладчык, выдавец.

19 студзеня – 150 гадоў таму ў Екацерынбургу (Расія) па дарозе на катаргу ў Сібір памёр Отан Грабніцкі (1829–1865), удзельнік паўстання 1863–1864 гг.

20 студзеня (ці 25 студзеня) – 110 гадоў таму ў Слуцку нарадзіўся Ян Пятроўскі (1905–2002), рэлігійны дзеяч, літаратар, выдавец, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне, Аўстрыі і ЗША.

20 студзеня – 60 гадоў таму ў Гданьску (Польшча) памёр Лукаш Дзекуць-Малей (1888–1955), грамадскі і рэлігійны дзеяч.

21 студзеня – 175 гадоў таму, у 1840-м, нарадзіўся Станіслаў Ляскоўскі (Меншчына), адзін з кіраўнікоў паўстання 1863–1864 гг. Пасля паражэння паўстання жыў у Бельгіі.

22 студзеня – 125 гадоў таму ў в. Дзедзіна (цяпер Мёрскі р-н) нарадзіўся Ільдэфанс Бобіч (1890–1944), рымска-каталіцкі святар, выдавец.

26 студзеня – 25 гадоў таму, у 1990-м, Вярхоўны Савет БССР абвясціў беларускую мову адзінай дзяржаўнай у Беларусі.

31 студзеня – 85 гадоў таму памёр Бенедыкт Дыбоўскі (1833–1930), заолаг, прыродазнавец, лекар, публіцыст, удзельнік паўстання 1863–1864 гг. Пахаваны ў Львове (Украіна).

# У ЛОНДАНЕ ВЫЙШЛА БЕЛАРУСКАЯ ВЕРСІЯ ”ЖУРНАЛА БЕЛАРУСКІХ ДАСЛЕДАВАННЯЎ” ЗА 2014 ГОД

У снежні ў Лондане Цэнтр Астрагорскага і Англа-беларускае таварыства выдалі беларускую версію нумара ”Журнала беларускіх даследаванняў“ за 2014 год.

Новы нумар змяшчае артыкулы як знаных навукоўцаў, так і маладых даследнікаў, беларускіх і заходніх аўтараў, якія ахопліваюць шырокі аспект тэм – ад гісторыі беларускай дзяржаўнасці да беларуска-іранскіх дачыненняў і дзейнасці НДА, заснаваных урадавымі структурамі ў Беларусі. У нумар таксама ўвайшлі чатыры кніжныя рэцэнзіі, напісаныя аўтарамі з ЗША, Вялікабрытаніі, Канады і Польшчы.

Адкрываюць нумар Дарота Міхалюк з універсітэта Мікалая Каперніка (Торунь) і Пэр Андэрс Рудлінг з Лундскага ўніверсітэта. Яны даследуюць развіццё ідэі беларускай дзяржаўнасці падчас нямецкай акупацыі беларускіх земляў у 1918–1919 гадах. Аўтары ўважаюць, што нямецкая адміністрацыя падтрымлівала беларускі нацыянальны рух, каб з яго дапамогай паслабіць іншыя нацыянальныя рухі рэгіёна. У артыкуле таксама звяртаецца ўвага на тое, наколькі папулярнымі сярод тагачасных беларускіх інтэлектуалаў былі ідэі дзяржаўнасці гістарычнай Літвы і “заходнерусізму“.

Сяргей Богдан са Свабоднага ўніверсітэта Берліна аналізуе беларуска-іранскія дачыненні, якія ад часу свайго ўсталявання ў 1993 годзе перажылі шэраг якасных і колькасных зменаў. Істотны ўплыў на дачыненні між краінамі мела пераўтварэнне ЗША ў адзіную супердзяржаву, а таксама яе спробы ізаляваць іранскі рэжым. Беларусі ўдалося заключыць шэраг дамоваў з Іранам, нягледзячы на супраціўленне з боку Захаду і дзякуючы хаўрусу з Расіяй, якая абараняла і падтрымлівала розныя аспекты знешняй палітыкі Беларусі, у тым ліку ейны курс на супрацоўніцтва з Блізкім Усходам.

Настасся Матчанка разглядае ролю праўладных недзяржаўных арганізацыяў у Беларусі. У адрозненне ад сапраўды незалежных недзяржаўных арганізацый, праўладныя НДА атрымліваюць непасрэдную падтрымку ад дзяржавы. Аўтарка аналізуе, у якой ступені грамадскія ўтварэнні, што падтрымліваюцца дзяржавай, сімулююць дзейнасць прадэмакратычных арганізацый і наколькі маштабна адбываецца падмена імі аўтэнтычнай грамадзянскай супольнасці ў Беларусі.

У нумар таксама ўключаныя кніжныя рэцэнзіі Вітаўта Кіпеля, прэзідэнта Беларускага інстытута навукі і мастацтва ў Нью-Ёрку, Арнольда Макміліна з Універсітэцкага каледжа Лондана, Лізаветы Касмач з універсітэта Альберты і Рыгора Астапені з Варшаўскага ўніверсітэта. Тэмы прадстаўленых імі выданняў – асабістыя мемуары, беларускае літаратуразнаўства, палітыка савецкай беларусізацыі 1920-х гадоў і гісторыя Вялікага Княства Літоўскага.

Джым Дынглі, сыходзячы старшыня Англа-беларускага таварыства, змяшчае ў нумары справаздачу пра беларускія падзеі ў Лондане за апошні год. Сярод гэтых падзеяў адзначаная канферэнцыя, прысвечаная ролі Кастуся Каліноўскага ў працэсе нацыятворчасці ў Беларусі, што прыцягнула навукоўцаў з Беларусі, Вялікабрытаніі, Польшчы і Літвы.

**З гісторыі ”Журнала беларускіх даследаванняў”**

Летась пасля дваццаці пяці гадоў маўчання ”Журнал беларускіх даследаванняў“ аднавіў сваю дзейнасць. Паводле задумы, ”Журнал“ павінен стацца платформай, на якой беларускія і заходнія беларусісты змогуць друкаваць вынікі сваіх даследаванняў.

Часопіс выходзіць па-англійску і па-беларуску. З аднаго боку, гэта дазваляе беларусам паказаць краіну і яе развіццё са сваёй перспектывы на ангельскай мове і ў адпаведнасці са стандартамі заходніх рэцэнзаваных выданняў. З дапамогай часопіса заходнія акадэмічныя структуры бліжэй пазнаёмяцца з беларускімі даследнікамі.

З іншага боку, беларуская версія часопіса дапаможа заходнім беларусістам трапіць у мэйнстрым беларускага навуковага жыцця і прабіцца да больш шырокага кола чытачоў у Беларусі.

Папяровую версію апошніх нумароў журнала можна набыць праз інтэрнэт. Электронныя версіі артыкулаў з нумароў за 2014 і 2013 гады і ангельскамоўных нумароў з 1965 года можна бясплатна спампаваць на сайце belarusjournal.com.

Журнал запрашае дасылаць артыкулы даўжынёй ад 5 да 12 тысяч словаў і агляды кніг з усіх галін беларускіх даследаванняў. Выданне надае асаблівую ўвагу праблемам беларускага грамадства і гісторыі.

*Яраслаў Крывой, рэдактар ”Журнала беларускіх даследаванняў“, дырэктар Цэнтра Астрагорскага.*
*“Наша Ніва”*

# ЧАМУ ВАРТА ЧЫТАЦЬ КАЗКУ ”ЯН ЯЛМУЖНА“ АНТОНА ФРАНЦІШКА БРЫЛЯ




Містычны змрок абступае Геранёнскі замак, а рэальныя постаці беларускай гісторыі робяцца героямі дзіўных легендаў. Мы схадзілі на прэзентацыю кнігі ”Ян Ялмужна“ і вынеслі адтуль некалькі цікавых фактаў пра яе стварэнне.

**Аўтар**: Антон Францішак Брыль паспеў ужо ўразіць літаратурны свет сваёй кнігай паэзіі ”Не ўпаў жолуд“, за якую атрымаў прэмію ”Дэбют“, а таксама шматлікімі важнымі перакладамі – ад казкі Толкіна да англасаксонскай паэмы ”Бэўфульф“. Унук Янкі Брыля. Працуе праграмістам, жыў у Дубліне, цяпер – у Цюрыху, плануе пераезд у Лондан. З усіх літаратурных жанраў найбольш любіць казкі, а таму і сам піша іх у розных формах – гістарычнае і міфічнае сплятаецца ў яго вершах, а цяпер і ў прозе.

**Кніга**: Казачная аповесць, у якой нават дробныя персанажы носяць імёны сапраўдных асобаў. Гісторыя аздобленая тут павучальнымі казаннямі, цудамі і містычнымі здарэннямі. Сам аўтар называе сваю кнігу ”разгорнутым жартам адносна некаторых гістарычных падзей“. Зрэшты, прафесійную іронію ўловяць знаўцы, усе астатнія могуць проста перанесціся ў старажытныя муры Геранёнскага замку, дзе валадарыць пан Ольбрахт Гаштаўт, а ягоны кемлівы кухмістр Ян Ялмужна ведае шмат таямніцаў.

*Паводле Аляксандры Дорскай.*
*Цалкам гэты тэкст, а таксама яе інтэрв'ю з аўтарам чытайце на budzma.by*

**Беларусы ў свеце**
№12 (152), снежань 2014

Інфармацыйны бюлетэнь МГА “ЗБС “Бацькаўшчына”. Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі.

Меркаванні аўтараў могуць не супадаць з думкай рэдакцыі.
Падрыхтоўка матэрыялаў і вёрстка – А. Башарымава
Адказныя за нумар – Н. Шыдлоўская, А Макоўская
Наклад 250 асобнікаў

Адрас рэдакцыі:
вул. Кузьмы Чорнага, 31, офіс 906,
г. Мінск 220012, Рэспубліка Беларусь
www.zbsb.org
zbsb@tut.by

тэл./факс (+375 17) 200-70-27